Праваабарончы
# Веснік
сакавік 2012
**Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь**

# ЖЫЦЦЁ СЯРГЕЯ КАВАЛЕНКІ ПАД ПАГРОЗАЙ

**Міжнародная Федэрацыя за правы чалавека (FIDH) і яе сяброўская арганізацыя ў Беларусі Праваабарончы цэнтр «Вясна» заклікаюць улады Беларусі неадкладна спыніць палітычны пераслед Сяргея Каваленкі і забяспечыць яму належную медыцынскую дапамогу.**

***Парыж-Мінск, 30 сакавіка 2012 г.***

24 лютага 2012 г. суд Першамайскага раёна г. Віцебска прысудзіў апазіцыйнага актывіста Сяргея Каваленку да 2 гадоў і 1 месяцу пазбаўлення волі, прызнаўшы яго вінаватым ва ўхіленні ад адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі.

Нагадаем, што 14 траўня 2010 г. суд Кастрычніцкага раёна г. Віцебска прысудзіў Сяргея Каваленку на 3 гады «абмежавання волі без накіравання ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу». Крымінальны пераслед актывіста пачаўся пасля таго, як 7 студзеня 2010 г. ён вывесіў беларускі бел-чырвона-белы сцяг, альтэрнатыўны афіцыйнаму, на верхавіне галоўнай навагодняй ёлкі ў г. Віцебску. Пры затрыманні супрацоўнікамі міліцыі Каваленка быў сур’ёзна збіты і пазней абвінавачаны па ч. 1 арт. 339 КК (наўмысныя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак) і ч. 2 арт. 363 (гвалт або пагроза ўжывання гвалту ў дачыненні супрацоўніка праваахоўных органаў пры выкананні ім службовых абавязкаў).

Публічная дэманстрацыя і вывешванне Каваленкам сцяга ні ў якім разе не можа кваліфікавацца як хуліганскія



*Сяргей Каваленка*

дзеянні; яны з’яўляюцца грамадска-палітычнай акцыяй, не носяць «характару асаблівага цынізму і відавочнай непавагі да грамадства» і не мелі гэтага на мэце.

Паўторнае прыцягненне Сяргея Каваленкі да крымінальнай адказнасці за нібыта ўхіленне ад адбыцця пакарання - непрыхаваны працяг палітычных рэпрэсій у дачыненні да яго і спроба далейшай ізаляцыі актывіста апазіцыйнай партыі.

З моманту арышту Сяргей Каваленка абвясціў галадоўку, якая з перапынкамі працягваецца з 19 снежня 2011 г. Асаблівую занепакоенасць FIDH і Праваабарончага цэнтра «Вясна» выклікае тое, што медыцынская дапамога Сяргею Каваленку аказваецца ва ўмовах пенітэнцыярнай установы. 26 сакавіка 2012 г. Сяргей Каваленка быў адпраўлены ў псіхіятрычнае аддзяленне на тэрыторыі выпраўленчай калоніі «Віцьба-3». Стан яго здароўя, па атрыманай інфармацыі, крытычны. У гэтых умовах FIDH і Праваабарончы цэнтр «Вясна» выказваюць апасенне за яго жыццё, а таксама сур’ёзную занепакоенасць магчымым ужываннем да яго прымусовага псыхіятрычнага лячэння.

FIDH і Праваабарончы цэнтр «Вясна» заклікаюць беларускія ўлады неадкладна і безумоўна вызваліць Сяргея Каваленку, спыніць яго крымінальны пераслед і забяспечыць яму неабходную і неадкладную медыцынскую дапамогу ў кваліфікаванай медыцынскай установе адкрытага тыпу.

Адказнасць за жыццё і здароўе Сяргея Каваленкі цалкам ляжыць на кіраўніцтве Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі, у распараджэнні якога ён зараз знаходзіцца.

# АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ: «ПЕРАЖЫВАЮ ЗА ТЫХ, ХТО ЗНАХОДЗІЦЦА ПА ТОЙ БОК СЦЯНЫ»

**Ужо больш за сем месяцаў кіраўнік праваабарончага цэнтра «Вясна» знаходзіцца за кратамі. Родныя, калегі, знаёмыя і незнаёмыя людзі падтрымліваюць Алеся Бяляцкага лістамі і паштоўкамі. Толькі да Новага года і Калядаў праваабаронца атрымаў каля 500 віншаванняў!**

*— Не ведаю, кім мяне на волі лічаць, —* жартуе з гэтай нагоды Алесь Бяляцкі, лістуючыся з роднымі.

З ласкавае згоды праваабаронцы Таццяны Рэвякі «Салідарнасць» публікуе некаторыя лісты Бяляцкага да яе.

Чытаеш іх і ўзнікае адчуванне, што піша іх чалавек не з турмы, а з санаторыя. Беражэ Бяляцкі сваіх блізкіх. Ён піша, што адсыпаецца, чытае Блока і Бабкова. Алесь не скардзіцца на здароўе і просіць не шкадаваць яго: *«Я і сам каго хочаш пашкадую...»*.

Таццяна ўзгадвае, як перадавалі Бяляцкаму ў СІЗА здымкі:
— Мы фатаграфавалі восень, залатое лісце, каб паказаць яму хараство прыроды, якога ён не бачыць. З'ездзілі таксама да яго на лецішча ў Ракаў. А там ў яго котка Кася і сабака Воўк. Іх таксама сфатаграфавалі. Алесю можна было узяць толькі два здымкі. Ён выбраў тыя, дзе былі котка і сабака... Напэўна, жывёліны думаюць: «Што ж мы такога зрабілі, што ён нас пакінуў?»

**16 лютага 2011 (апошні дзень у Жодзінскім СІЗА)**

*Добры дзень, дарагая Таццяна!*

*Сёння ноччу прысніў я сон. ...Як быццам бы мы сядзім у нейкай зямлянцы і размаўляем пра нашыя справы. А потым я вылез з гэтай зямлянкі і ўзляцеў. Лётаў над высокімі хвоямі, пасля апусціўся і сказаў: «Вось, бачыце, які я унікальны. Магу тое, што ніхто не можа, – лётаць».*

*І што ты думаеш? Зранку прыйшлі і сказалі: «Збірайся! Паляціш на этап». Склаў я ўсе свае рэчы: дзве торбы цяжкія атрымаліся. Неяк пацягнуў. Справы ў мяне пакуль нармальныя. Як толькі прыеду на новае месца — напішу. Маразы я тут, даецца, перачакаў. Ну, а вясной любому будзе весялей. Чуе маё сэрца, што ў бліжэйшы месяц некага з страдальцаў адпусцяць. Але ці буду я ў гэтым спісе – не ведаю. Я спакойны. Як будзе, так і будзе. Чытаю Блока. У яго ёсць вось такія страшылкі...*

*...Спадзяюся, што сёлета я яшчэ дзенебудзь пазагараю па-за плотам. Вось і ўсе мае навіны. Трымайцеся там. Будзьце асцярожнымі.*

**6 лютага 2012 года**

*Добры дзень, дарагая Таццяна!*

*Дзякуй за твой ліст, напісаны на колішнім музейным бланку.* («Напісала Алесю на дваццацігадовай даўніны бланку з Пагоняй, — тлумачыць Таццяна Рэвяка. — Папрасіла, каб дарагая цэнзура прапусціла. Дзякуй ёй за гэта»).

*Сапраўды класная памятка мінулых дзён. Во час быў — што хацелі, то рабілі, і ніхто не перашкаджаў.*

*...А тое, што ты не пішаш успаміны — гэта паказальнік таго, што ты не любіш сябе. У грамадска-культурным жыцці, як у навасным. Тое, што не зафіксавана на паперы, лічы, што яго і не было. Вось да якой высновы я прыйшоў, аналізуючы плынь жыцця. Спадзяюся, што хоць «вясноўскае» эсэ ты зрабіла.*

*...Мае торбы запакаваныя ўжо пад шконкай стаяць, але ніхто нікуды не спяшаецца. Яшчэ і рашэнне судовае не прыходзіла. Значыць, яшчэ некалькі дзён тут пабуду. Я не супраць, бо на двары такія маразы стаяць, што пра этап і думаць не хочацца. Тым не менш, праз колькі дзён паеду, а куды – Бог яго ведае. Пачытаў Ірыну прэсуху* (маецца на ўвазе прэс-канферэнцыя Ірыны Халіп – прым. Рэд.), *дык, шчыра кажучы, не надта туды і хочацца. Але зноў жа, як будзе — так і будзе.*

*Што тычыцца любімага верша Багдановіча, то ў мяне іх некалькі. На ўсе выпадкі жыцця. Я хацеў тут крышку пра Багдановіча напісаць, як у музэі працаваў, але паленаваўся. Зараз сябе дакараю. Вот далі б мне хімію хатнюю замест гэтай шконкі, тады б дакладна дома сядзеў і напісаў бы. Але ведаеш, я сябе лаўлю на тым, што разумею яго ўсё менш і менш. Узроставы бар'ер сказваецца. Я ўжо два разы па стольки ж пражыў. Але ўсяго не ахопіш. Як мне напісала адна маладая прыгожая жанчына, усё, што з вамі адбываецца, гэта недарма, гэта ўжо ўсё было спланавана звыш. Што ж, я з ёй пагаджуся.*

*Маё здароўе зараз нармальнае. Сапраўды, быў прастыў з-за недахопу свежага паветра. Прастуда зацягнулася, але зараз прайшла. Пра спіну я стараюся не думаць, бо яе заклініць – будзе катастрофа. Ты ж не ведаеш, з якога боку можа дзюбнуць. Усё-такі ўжо не трыццаць. Адзінае, што лекаў у мяне кілаграмы. На ўсе выпадкі жыцця. Я адціскаюся, прысядаю, стараюся троху рухацца. Шкада вось, бегаць няма дзе...*

*Ты там беражыся, будзь пільнай, абы дзе і абы з кім не цягайся. Бо часы ведаеш якія зараз. Сюды мне ўжо не варта пісаць, а на новае месца спачатку дашлі паштоўку. Паглядзіш, як сувязь будзе функцыянаваць. Усім прывітанне. Абдымаю. Алесь.*

**21 снежня**

*Дарагая Таццяна, віншую цябе з Калядамі і Новым годам. Жадаю асабістага шчасця і вясёлага неспакою, грошай паболей, здароўя поўнай меркаю. Выпіце за мяне гэтым разам, а я за вас гарбаткі шахну. Як кінуў вы-*

*мушана піць – дык мазгі неяк лепей працаваць сталі : ).*

*У мяне ўсё нармальна. Вось жа я і адаспаўся за ўсе ранейшыя гады, але затое вяду зараз бурлівую мыслярскую дзейнасць. Шмат думаю, мазгі развіваю. Абавязкова адпачніце. Усім сілы ў 2012 спатрэбяцца. Спадзяюся, што ён будзе спакайнейшым і будзе болей у ім прыемных сюрпрызаў.*

*Да сустрэчы.*
*Алесь*

**28 лістапада**

*Добры дзень, Таццяна!*

*Пасля суду спаў два дні, бо ўвесь гэты месяц быў напружаны, і інтрыга захоўвалася да апошняга дня. Я ўвесь гэты час адчуваў падтрымку, літаральна кожны дзень і кожную гадзіну. Зразумела, што судзілі па «беспределу». І прысуд мусіў быць такім жа самым. Прыемна было бачыць сябе на плакаце падчас зачытання прысуду ў тваіх руках. І вось як ён сказаў колькі, не паверыш, нічога не зварухнулася ў маёй душы. Ні роспачы, ні расчаравання я не адчуў...*

*І зараз настрой спакойны і дзелавіты. Зноўку бяруся за ангельскую.*

*Прысуд мне прынеслі ў пятніцу, што надзвычай хутка. Людзі чакаюць тут тыднямі і месяцамі. Гэта значыць, што доўга марынаваць тут не збіраюцца. Будуць, мабыць, гэткім жа хуткім чынам разглядаць касацыйную скаргу і адпраўляць у калонію.*

*Сёння Наталля была на спатканні, і я замовіў усе неабходныя рэчы, так што, падсумоўваючы, вялікі вам усім дзякуй за падтрымку. Думаю, што гэтыя месяцы былі проста найвышэйшым пілатажам усіх нас. Урэшце ўсе ў Беларусі даведаліся, што такое «Вясна». Я вельмі задаволены. Як слон. Зараз я спакойны, чаго і вам усім жадаю. Час эмоцый патроху праходзіць. Таму жывем і працуем далей. Перадавай усім знаёмым прывітанне і мае паклоны. Самае непрыемнае, здаецца, засталося ззаду. Не трэба плакаць і перажываць. Я тут імкнуся меней думаць пра непрыемнае і стараюся болей жартаваць. Самае галоўнае, што ўсе мы жывыя, і ўсё астатняе перажывем. Да сустрэчы!*

**16 лістапада 2011**

*Прывітанне, Таццяна!*

*Быў рады бачыць цябе і ўсіх знаёмых, але ты з Пятровічам пaглядалі на мяне так ужо жаласліва. І дарэмна. У мяне ўсё нармальна. І лепшым я не стаў, як быў. Таму шкадаваць мяне няма падставаў. Я і сам каго хочаш пашкадую. Трохі я выбіўся са сваіх звычайных справаў да суда. Падрыхтоўка заняла ўвесь час. І не хацеў асабліва перанапружвацца. Да канца месяца вызначаць мне пакаранне. За мяне можаш быць спакойная. Я значна болей перажываю за тых, хто па той бок сцяны. А я зараз там, дзе акурат і мусіць знаходзіцца праваабаронца ў такой паганай сітуацыі. Перадавай прывітанне ўсім сябрам. Да сустрэчы. Моцна абдымаю. Алесь.*

**23 кастрычніка**

*Прывітанне, дарагая Таццяна! У мяне ўсё нармальна. Працягваю паціху рыхтавацца да суду. Цікава, што мяне ўпершы раз судзілі за арганізацыю Дзядоў у Першамайскім судзе ў кастрычніку 1988-га. Па адміністрацыйным пратаколе далі 200 рублёў штрафу. Па ўсім відаць, што зараз, праз 23 гады, мне так лёгка не аддзелацца. Я гатовы да калоніі і да хіміі. Што дадуць – то і будзе маім. Мне таксама здаецца, што я ў камандзіроўцы. Па вялікім рахунку гэта недалёка ад ісціны. Галоўнае, каб здароўе не падвяло. З ім у мяне пакуль усё нармальна. Сумленне чыстае, таму сплю добра. Адсыпаюся тут. Увогуле адчуванне такое, што саскочыў з машыны, на якой глядзеў на жыццё праз шкло і пайшоў зараз па дарозе жыцця пешшу. Павольна, але затое ўсё заўважаеш і цэніш. Як напісаў Ігар Бабкоў, якога зараз чытаў у «Дзеяслове», чалавек чамусьці пачынае адчуваць сябе чалавекам, толькі калі ён крыху выпадае са свету. Паездкі мяне настолькі стамілі за апошні час, што яшчэ дасюль адыйсці не магу. Суд выглядае, што будзе адкрытым. Што там будзе – ці суд, ці цырк – пабачым. Я тут як за шклом. Усе жыццёвыя буры зараз мяне абыходзяць бокам. Але, як пісаў Караткевіч, уся Беларусь – вялікая клетка. Так што я сапраўды адчуваю вашую прысутнасць недзе побач. Перадавай прывітанне сябрам усім. Да сустрэчы. Алесь.*



*Таццяна Рэвяка з лістамі Алеся Бяляцкага*

**P.S. Пакуль рыхтавалася гэтая падборка, Таццяна Рэвяка атрымала першы ліст ад Алеся Бяляцкага з бабруйскай турмы. Па іроніі лёсу яна знаходзіцца на вуліцы Сікорскага. Таццяна прызнаецца, што плакала, калі прачытала: *«Атрымаў уніформу. Астрыжаны, без вусоў, выглядаю як запраўскі зэк»*.**

**«Салідарнасць»,**
**http://gazetaby.com**

# «ПОЛИТИЧЕСКИЕ»: ТОЧКИ НАД «і»

*В феврале партийные активисты заявили о необходимости создания экспертного Совета по определению политзаключенных. Специально созданная координационная группа «За волю» начала проведение тематических круглых столов, где встал вопрос о едином списке «политических». Есть расхождения между общественно-политическими активистами и представителями правозащитных организаций во взглядах на уголовные дела Александра Крутого, Юрия Чигилейчика и Александра Молчанова. Претензии к правозащитникам - что они отказались от этих трех «спорных кандидатов в политзаключенные», затянув с определением «своих», «национальных» критериев политически мотивированных дел - были озвучены на страницах «Новага Часу» в статьях Татьяны Шапутько. Из них следует, что возмущение вызывает в основном «официальный» список политзаключенных на сайте Правозащитного центра «Вясна», который группа «За волю» считает неполным.*

*Чтобы артикулировать все важные акценты в деле признания-непризнания «политических», заместитель руководителя «Вясны»* **Валентин СТЕФАНОВИЧ** *представляет правозащитный ракурс проблемы.*

**Списки политзаключенных: нюансы**

Создание единого списка политзаключенных - на сегодняшний день головная боль не только белорусского общества. Так, после президентских выборов 2010 года в Украине новая волна политического преследования стала серьезным вызовом украинскому обществу. В этом году в свете предвыборных протестов эта тема приобрела большую актуальность в России. И в каждой из стран эксперты отмечают «неоднородность» списков политических заключенных и объясняют это тем, что по сравнению с советскими временами меняются приоритеты и методы властей. Тем самым усложняются задачи для правозащитного сообщества - требуется более точный и многосторонний анализ дел, чтобы в каждом конкретном случае выделить политическую составляющую.



*Валянцін Стэфановіч*

Представляется очевидным, что «общественной» экспертизы в таком серьезном деле недостаточно, даже если на первый взгляд все карты сходятся. Валентин Стефанович считает, что монопольного ключа на составление списков политзаключенных не должно быть ни у кого, но вместе с тем подчеркивает важность профессионального подхода к этому делу. *«Основное - вопрос профессиональной оценки и подтверждения своих выводов анализом, конкретными фактами,* - говорит правозащитник. - *Я понимаю, что политические партии и движения могут иметь свой интерес в признании лица политическим заключенным. Например, потому что он «свой», они не могут его бросить, и по другим причинам. Но правозащитники в этой ситуации должны занимать абсолютно независимую позицию, не принимать каких-то конъюнктурных решений, независимо от того, от кого они исходят. Мы должны стараться называть вещи своими именами. Пример - 19 декабря: никто не говорил, что люди, которые били стекла Дома правительства, абсолютно невиновны, мы говорили о том, что уголовное дело, возбужденное по статье о массовых беспорядках, является абсолютно непропорциональной реакцией властей, что никаких массовых беспорядков не было. То, что были признаки других правонарушений, мы не отрицали. О таких вещах надо говорить абсолютно беспристрастно. Что касается различных взглядов и мнений, то они и должны быть, наверное. А что касается «Вясны», то мы не составляем «официальные» списки политзаключенных, как написала Татьяна Шапутько. Это списки тех, кого признает политзаключенными ПЦ «Вясна». Мы согласовываем свою позицию и с другими правозащитными организациями, в частности, с Белорусским Хельсинкским Комитетом, Центром правовой трансформации, комитетом «Солидарность» и другими коллегами. И если в списке на нашем сайте «кликнуть» на фамилию политзаключенного, то можно прочитать краткий аналитический обзор его дела, где объясняется, почему мы делаем вывод о политическом контекст его дела. Но наше мнение иногда не совпадает с мнениями политических субъектов».*

> *“мнение правозащитников иногда не совпадает с мнениями политиков”*

Как пример таких несовпадений можно привести первую судимость сегодняшнего политзаключенного Николая Автуховича: правозащитный центр “Вясна”

# СПІС ПАЛІТЫЧНЫХ ВЯЗНЯЎ

**Праваабарончы цэнтр "Вясна" прызнае наяўнасць у Беларусі наступных палітычных вязняў (асобаў, якія незакона пазбаўлены свабоды за свае палітычныя перакананні):**

**1. Мікалай Аўтуховіч** – *узяты пад варту з 8 лютага 2009 г., асуджаны 06.05.2010 г. Вярхоўным судом па ч. 3 арт. 295 КК (незаконныя дзеянні ў адносінах да вогнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў) да 5 гадоў і 2 месяцаў пазбаўлення волі ва ўмовах строгага рэжыму. Рашэннем суду ад 17.01.2012 г. умовы адбыцця пакарання былі зменены на больш жорсткія, пераведзены з калоніі №5 у Івацэвічах ў турму №1 г.Гродна.*

**2. Андрэй Саннікаў** – *узяты пад варту з 20 снежня 2010 г., асуджаны 14.05.2011 г. судом Партызанскага раёна г.Менску па ч. 1 арт. 293 КК (арганізацыя масавых беспарадкаў, якія суправаджаліся гвалтам над асобай, пагромамі, падпаламі, знішчэннем маёмасці і узброеным супрацівам прадстаўнікам улады) да 5 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №3 у Віцебску.*

**3. Мікалай Статкевіч** - *узяты пад варту з 20 снежня 2010 г., асуджаны 26.05.2011 г. судом Партызанскага раёна г.Менску па ч. 1 арт. 293 КК да 6 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Рашэннем суду ад 12.01.2012 г. умовы адбыцця пакарання былі зменены на больш жорсткія, пераведзены з калоніі №17 у Шклове ў турму №4 г. Магілёва.*

**4. Зміцер Бандарэнка** – *узяты пад варту з 20 снежня 2010 г., асуджаны 27.04.2011 г. судом Першамайскага раёна г.Менску па ч.1 арт. 342 КК (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо ўдзел у іх) да 2 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах агульнага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №15 у Магілёве.*

**5. Павал Севярынец** – *узяты пад варту з 20 снежня 2010 г., асуджаны 16.05.2011 г. судом Заводскага раёна г.Менску па ч.1 арт. 342 КК да 3 гадоў абмежавання волі. Знаходзіцца ў ПУАТ-7 в.Куплін.*

**6. Зміцер Дашкевіч** – *узяты пад варту з 18 снежня 2010 г., асуджаны 24.03.2011 г. судом Маскоўскага раёна г.Менску па ч. 2 арт. 339 КК (злоснае хуліганства) да 2 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах агульнага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №13 у Глыбокім.*

**7. Эдуард Лобаў** – *узяты пад варту з 18 снежня 2010 г., асуджаны 24.03.2011 г. судом Маскоўскага раёна г.Менску па ч. 3 арт. 339 КК (асабліва злоснае хуліганства) да 4 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах строгага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №22 у Івацэвічах.*

**8. Сяргей Каваленка** – *узяты пад варту з 22 снежня 2011 г. па арт.415 КК (парушэнне ўмоваў адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі). 14.05.2010 г. ён быў асуджаны па ч.1 арт. 339 КК (наўмысныя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак) Кастрычніцкім судом г.Віцебска да 3 гадоў абмежавання волі.*

**9. Алесь Бяляцкі** – *узяты пад варту з 4 жніўня 2011 г., асуджаны 24.11.2011 г. судом Першамайскага раёна г.Менску па ч.2 арт. 243 КК (утойванне прыбыткаў у асабліва буйным памеры) да 4,5 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Знаходзіцца ў турме №2 у Бабруйску.*

**10. Мікалай Дзядок** – *узяты пад варту 3 верасня 2010 г., асуджаны 27.05.2011 г. судом Заводскага раёна г.Менску па ч.2 арт. 339 КК да 4,5 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №15 у Магілёве.*

**11. Ігар Аліневіч** – *узяты пад варту з 29 лістапада 2010 г., асуджаны 27.05.2011 г. судом Заводскага раёна г.Менску па ч.2 арт. 339 КК, ч.2 і ч.3 арт.218 КК (пашкоджанне маёмасці агульнанебяспечным спосабам і ў асабліва буйным памеры) да 8 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №10 у Наваполацку.*

**12. Аляксандр Францкевіч** – *узяты пад варту 3 верасня 2010 г., асуджаны 27.05.2011 г. судом Заводскага раёна г.Менску па ч.2 арт. 351 КК (наўмыснае знішчэнне кампутарнай інфармацыі) і ч.2 арт.339 КК да 3 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №22 у Івацэвічах.*

**13. Яўген Васьковіч*** – *узяты пад варту з 17 студзеня 2011 г., асуджаны 18.05.2011 г. судом Бабруйскага раёна і г.Бабруйску ч.2 арт.339 КК і ч.3 арт.218 КК (пашкоджанне маёмасці ў асабліва буйным памеры) да 7 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Рашэннем суду ад 12.10.2011 г. умовы адбыцця пакарання былі зменены на больш жорсткія, пераведзены з калоніі №15 у Магілёве ў турму №4 г. Магілёва.*

**14. Арцём Пракапенка*** - *узяты пад варту 17 студзеня 2011 г., асуджаны 18.05.2011 г. судом Бабруйскага раёна і г.Бабруйску ч.2 арт.339 КК і ч.3 арт.218 КК да 7 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў турме №17 у Шклове.*

**15. Павал Сырамолатаў*** - *узяты пад варту 17 студзеня 2011 г., асуджаны 18.05.2011 г. судом Бабруйскага раёна і г.Бабруйску ч.2 арт.339 КК і ч.3 арт.218 КК да 7 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №19 у Магілёве.*

**У дзеяннях дадзеных асобаў угледающа прыкметы правапарушэння, але адзначаем несправядлівую кваліфікацыю іх дзеянняў і празмернасць вынесенага пакарання. Лічым, што яны адбылі ўжо дастатковае пазбаўленне волі для здзейсненага ўчынку і ўтрыманне надалей іх у зняволеньні палітычна матываванае.*

не видел политических мотивов в том уголовном деле и расценивал ситуацию как связанную с его бизнесом, а политик Александр Милинкевич считал, что дело связано с политическим преследованием, и Автухович в этой связи был в списке политзаключенных. Есть и другие примеры, когда резонансные дела, попав в центр внимания общественности (в том числе и в отношении общественно-политических активистов), правозащитники не признавали «политическими». *«Так получилось с делом Андрея Бондаренко,* - рассказывает Стефанович. - *Мы не пришли к окончательному выводу об исключительно политическом его характере, хотя и не исключали этого. Там был один нюанс, который вносил сомнения: был заметный личный след в отношениях между ним и бывшим партнером по бизнесу, который позже проверял фирму Бондаренко уже как сотрудник государственного органа. При таких обстоятельствах было сложно сделать вывод, было*

*Працяг на старонцы 6*

# «ПОЛИТИЧЕСКИЕ»: ТОЧКИ НАД «і»

*Працяг.*
*Пачатак на на старонцы 4*

*ли дело связано с политическим преследованием (потому что он баллотировался на выборах и незадолго до этого вступил в ОГП). Но я абсолютно не хочу сказать, что Андрей Бондаренко был осужден справедливо, что не было никаких нарушений. И то, что он был оправдан, в конце концов, свидетельствует, что он был осужден незаконно. Однако незаконность осуждения тоже не является дефиницией политического дела».*

### О «национализации» критериев и опасности заимствований

При более-менее внимательном изучении проблемы становится ясно, что необходимость в выработке национальных критериев определения «политических» дел объективно отсутствует. Их наличие даже противоречило бы принципу универсальности, к которому стремится международное правозащитное сообщество. Существуют критерии, выработанные авторитетными международными организациями - институтами Совета Европы, «Международной амнистией», Human Rights Watch. Белорусские правозащитники руководствуются этими критериями (что видно и из обзоров уголовных дел на сайте «Вясны»). Проблема заключается немного в ином: *«В ряде случаев мы абсолютно спокойно и сразу можем квалифицировать дело как политически мотивированное,* - объясняет Валентин Стефанович. - *Например, если это связано с реализацией человеком одного из своих гражданско-политических прав и свобод - свободы ассоциаций, свободы собраний, свободы выражения мнений и т.д. Или если есть очевидный политический мотив - в действиях лица или в действиях государства в отношении этого лица. Но есть более замаскированные случаи политического преследования. И может сработать «эффект Жовтиса», как я называю. Это известная история, когда в Казахстане правозащитник совершил реальное ДТП со смертельным исходом, но отношение со стороны властей было непропорциональное: фальсифицировались материалы уголовного дела, очевиден был обвинительный уклон и желание власти посадить таким образом Жовтиса в тюрьму. То есть был явно политический мотив. Так вот, задача правозащитников - этот мотив увидеть и его обосновать. Потому что без обоснования, почему мы именно этот мотив считаем политическим, очень трудно определить то или иное дело как «политическое».*

Российский правозащитник Сергей Давидис («Союз солидарности с политзаключенными»), модифицируя критерии экспертов Совета Европы, стремился решить еще одну существенную проблему - «проблему Чикатило» (имеются в виду граждане, безвинно репрессированы за его преступления). То есть, от политических заключенных очень важно отграничить заключенных по общественно значимым неполитическим делам, в которых при желании можно найти политический мотив власти. Как пример в Беларуси Валентин Стефанович приводит «дело Ковалева-Коновалова»: *«При желании мы можем найти политический мотив властей в этом деле. Но можем ли мы говорить, что это политическое дело? Если бы они, например, по своей воле заявили, что совершили теракт в политических целях, они бы были политическими террористами и в широком смысле их можно было бы назвать политзаключенными, но - требовать не их освобождения, а справедливого суда с соблюдением всех процессуальных норм и, конечно, неприменения смертной казни при любых обстоятельствах».*

> *“Белорусские правозащитники руководствуются критериями, которые выработаны международными организациями”*

То есть, основная сложность для правозащитников заключается не в критериях, а в подходах, трактовании этих критериев. «Понятно, что каждая страна пытается каким-то образом при этих подходах отразить те нюансы, которые есть в этой стране. И, конечно, мы должны прийти к универсализации критериев и определений, но понимаем, что подходы при этом останутся несколько отличающимися». И в этом кроется опасность слепого заимствования у тех же российских правозащитников, «пока белорусы определятся со своими». Здесь нужна бдительность, так как в некоторых подходах соседей заметен отпечаток громких уголовных дел - «дела Ходорковского» в России, «дела Тимошенко» в Украине и др. Например, украинские правозащитники пишут: «кроме дискриминации по политическим мотивам тех, кого власть считает своими оппонентами, она иногда прибегает к преследованию своих сторонников или исполнителей своих репрессивных решений - в результате внутренних споров, недоразумений или с целью замаскировать выборочные репрессии». *«Это ситуация, когда между ведомствами начинается некая «война»- то, что у нас очень часто бывает между прокуратурой и КГБ, КГБ и МВД,* - объясняет Стефанович. - *Однако лично я к такому подходу отношусь критически, поскольку таким образом мы можем сказать, что и Полудень и Байкова также подпадают под критерии политических заключенных. То есть мы их поставим на одну ступень с осужденными по делу 19-го декабря - Санниковым, Бондаренко, Статкевичем, с Беляцким и другими политзаключенными!»*

Российские правозащитники при одном из подходов говорят, что политическое преследование может быть, если «осуществляются массовые кампании по борьбе с отдельными видами правонарушений, совершаемых определен-

ными категориями или группами лиц». *«В нашем случае это кампании по борьбе с торговлей людьми, с наркоманией, с коррупцией, где действительно очень много бывает нарушений и осуждения бывают очень сомнительные, когда, например, происходят провокации,* - проводит аналогию Стефанович. - *Но можем ли мы говорить, что они носят политический характер?»* По словам правозащитника, «Вясна» все же склоняется к классическим критериям “Международной Амнистии”. И, когда представители «Вясны» и БХК в прошлом сентябре в Киеве обсуждали проблему с коллегами из стран СНГ, то сообща пришли к выводу, что за основу могли бы взять модель “Международной Амнистии”, разделяя политзаключенных, в широком смысле, на две большие группы - «узники совести» (их свобода ограничена тюремным заключением или другим способом исключительно из-за политических, религиозных или других убеждений, пола, расы, языка, этнического, национального или социального происхождения, имущественного статуса, родственных отношений, сексуальной ориентации и др. характеристик личности; ими не считаются люди, которые прибегают к насилию или пропагандирующие насилие и вражду) и «политические заключенные» (любые заключенные, дела которых имеют значительный политический, в широком смысле, элемент: либо мотивы действий заключенного, или сами эти действия, или мотивация властей).

Например, полностью подпадают под определение политзаключенного «Международной Амнистии» «бобруйские анархисты» - правозащитники требовали пересмотра их дел справедливым судом, отмечая несправедливый и не всесторонний характер суда и явно непропорциональный характер приговора.

Называя другие примеры, Валентин Стефанович отмечает, что в Беларуси в принципе не так часто инкриминируют в политических целях насильственные действия. *«Хотя такие случаи были, но они отличались тем, что (как нам казалось) это осуждение по уголовным делам, которые не имели места. Тот же Сергей Парсюкевич, которого обвиняли в насильственных действиях в отношении сотрудников милиции, когда он находился в ЦИПе. Но обстоятельства самого дела свидетельствуют о том, что жертвой применения незаконной физической силы стал как раз сам Парсюкевич, его избили сотрудники милиции в изолированной камере. Когда по «делу 14-ти» людей осудили за участие в групповых действиях, грубо нарушающих общественный порядок, Андрея Кима параллельно обвинили в насильственных действиях против сотрудников милиции. Однако в ходе суда ни один из видеоматериалов не засвидетельствовал, что Ким нанес удар сотруднику милиции. Все держалось исключительно на показаниях милиции, и при таких обстоятельствах мы считали, что вина Кима не доказана, не установлена судом. А в основном политзаключенные осуществляли какое-то свое право - без применения насилия. Тот же Сергей Коваленко обвиняется в хулиганстве и угрозе насильственных действий в отношении сотрудников милиции. Но если смотреть суть дела, то сотрудники милиции, которые ждали его внизу, когда он слез с елки, начали его там задерживать и бить при этом. Очевидно, не Коваленко совершал угрозу насилия, а все было наоборот».*

> *“Классический подход «Международной Амнистии» разделяет политзаключенных в широком смысле на узников совести и политических заключенных”*



*Аляксандр Малчанаў*

**О делах «спорных кандидатов»**

В ответ на обвинения в том, что правозащитники не следят за делами Александра Крутого, Юрия Чигилейчика и Александра Молчанова, которых «отказалась взять под свою опеку», заместитель председателя «Вясны» утверждает, что это не так. *«Во-первых, без наличия полной информации о том или ином деле утверждать заведомо, скажем так, что оно носит политический характер,* - *я повторюсь, это непрофессиональный подход,* - объясняет свою позицию Стефанович. - *Во-вторых, мы имеем информацию относительно всех этих дел, причем из разных источников. Просто я бы сказал, информация, которой мы располагаем, может носить непубличный характер. Есть неписанный кодекс - и я не буду озвучивать информацию, которая может навредить прежде всего самим этим лицам, которые находятся в заключении. Информацию, которая может носить личный характер (например, о состоянии здоровья кого-то или иное), я считаю, публично озвучивать не нужно, но мы принимаем ее к сведению и оцениваем при принятии того или иного решения».*

Правозащитник отмечает еще один важный момент: о некоторых вещах можно говорить только на этапе судебного разбирательства. Во время суда видно, признает ли человек вину, насколько приемлемые доказательства, насколько они соответствуют принципам допустимости, заложенным в Уголовно-процессуальном кодексе, - и говорить о каком-то предвзятом отношении, обвинительном уклоне и т. д. можно только после суда.

*«Да, суть дела Чигилейчика за-*

*Заканчэнне на старонцы 8*

# «ПОЛИТИЧЕСКИЕ»: ТОЧКИ НАД «і»

*Заканчэнне.*
*Пачатак на на старонцы 4*

*ключается в том, что при нем был обнаружен метадон. Я не знаю и на данном этапе не могу утверждать, что ему его подбросили. Все станет ясно в ходе суда. Относительно того, что он был избит, то принципы свободы от пыток одинаковы для всех, нет разницы, «политическое» это дело или нет. Как мы знаем, к сожалению, пытки часто используются в иных целях, не политических - чтобы выбить какие-то показания. Это нарушение прав человека, и с этим надо бороться - но это не равно «политическое» дело»*, - указывает на очень важный момент Стефанович и добавляет, что наличие процессуальных нарушений в том или ином деле также априори не является равным «политическому» делу. *«К сожалению, есть проблемы с правосудием в стране, мы знаем случаи незаконного осуждения граждан. Да, это жертвы судебной системы, нарушений прав человека, но процессуальные нарушения не обязательно свидетельствуют о политическом характере дела. Здесь очень важно смотреть на мотивы, суть случившегося. На причинно-следственную связь, если уж совсем просто говорить, - между тем, что случилось, и последствиями. А также - направленны действия против представителей государственных органов или против физического лица и т.д.»*

Ситуацию с Александром Молчановым правозащитники рассматривают как более сложную, поскольку возобновлено уголовное дело против него за оскорбление государственной символики. *«Но статья, которая предусматривает ответственность за оскорбление государственной символики, 370-ая Уголовного кодекса, не предусматривает санкции, связанной с лишением свободы, максимальная санкция там связана с ограничением свободы - так называемая «химия». Это означает, что по этой статье лицо нельзя взять под стражу*, - обращает внимание Стефанович. - *Молчанов находится сейчас в СИЗО не потому, что возбуждено уголовное дело за оскорбление символики, а потому, что он подозревается в совершении преступления группой лиц, в краже имущества. Мы знаем только то, что произошло. Вопрос доказанности-недоказанности - это уже дело адвоката и суда»*.

Правозащитники заявляют о намерении отслеживать суд: чтобы не было предвзятого отношения к Молчанову, чтобы в отношении него соблюдались все процессуальные гарантии, чтобы суд не носил обвинительного уклона из-за того, что он политически активный человек. *«И, конечно, если все это будет происходить, то можно будет говорить об «эффекте Жовтиса». Но это можно будет увидеть только во время суда. Сейчас об этом невозможно что-либо говорить. И здесь мы не можем требовать немедленного освобождения Молчанова»*.

По словам Стефановича, в части государственной символики можно говорить, что есть политический мотив в действиях Молчанова, если он действительно это делал (вины своей он не признает), либо политический мотив со стороны государства. Относительно еще двух «спорных кандидатов в политзаключенные» правозащитники пока не могут сказать о политических мотивах со стороны государства или в действиях этих лиц.

**Праваабарончы цэнтр «Вясна» - неўрадавая праваабарончая арганізацыя, створаная ў красавіку 1996 году падчас масавых акцыяў пратэсту дэмакратычнай апазіцыі ў Беларусі, якая пасля арыштаў удзельнікаў дэманстрацыяў займалася дапамогай арыштаваным і іх сем'ям. Таму першапачаткова арганізацыя мела назву «Вясна-96». 15 чэрвеня 1999 году арганізацыя была зарэгістраваная як Грамадскае аб'яднанне «Праваабарончы цэнтр «Вясна». Уяўляе сабой рэспубліканскае аб'яднанне з цэнтрам у г.Мінску і рэгіянальнымі арганізацыямі ў большасці буйных гарадоў Беларусі. Па ўсёй краіне колькасць сябраў складае каля 200 чалавек. Асноўныя паўнамоцтвы па кіраванні арганізацыяй належаць Радзе і Старшыні Рады, якія абіраюцца на Агульным сходзе.**

**Рашэннем Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь 28 кастрычніка 2003 году за ўдзел у назіранні падчас прэзідэнцкіх выбараў 2001 г. ГА «Праваабарончы цэнтр «Вясна» было беспадстаўна пазбаўлена дзяржаўнай рэгістрацыі. Сябры арганізацыі неаднаразова спрабавалі дамагчыся легальнага статусу арганізацыі, але беларускія ўлады па надуманых прычынах адмаўлялі ў дзяржаўнай рэгістрацыі грамадскага аб'яднання. 6 сакавіка 2004 году ПЦ «Вясна» быў прыняты ў Міжнародную Федэрацыю Правоў Чалавека (FIDH).**

**Праваабарончы цэнтр «Вясна» займаецца аказаннем юрыдычнай, матэрыяльнай, ды іншай дапамогі рэпрэсаваным і іх сем'ям, маніторынгам сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, назіраннем за выбарчымі кампаніямі, асветніцкай дзейнасцю ў галіне правоў чалавека.**

**Старонка Магілёўскага аддзялення Праваабарончага цэнтру «Вясна» ў інтэрнэце:**

**www.mahilyowspring.org**

Праваабарончы веснік. Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь. Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 ас.